На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 131 (483)
Пятніца, 24 ліпеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



# Водку? В такую жару? Из алюминиевой кружки? Только государственного разлива!

**Президент подписал Закон "О государственном регулировании производства и оборота алкогольной продукции". Отныне Александр Лукашенко сам будет заботиться о наполнении чарки для народа. Со шкваркой хуже — возвращается дефицит продуктов в магазинах.**

**Анонс**

25 сакавіка 1918 года, 1 студзеня 1919 года, 27 ліпеня 1990 года і 15 сакавіка 1994 года — гэта ўсё этапы цярністага шляху Беларусі і яе народа да незалежнасці. Кожную з гэтых дат можна ацэньваць па-рознаму, але яны належаць гісторыі Рэспублікі Беларусь, і нельга ніводную з іх ануліраваць. Аднак прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка ў выніку падмены паняццяў і фальсіфікацыі вынікаў лістападаўскага (1996 г.) рэферэндуму абвясціў дзяржаўным святам — Днём Рэспублікі — 3 ліпеня, дзень вызвалення горада Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Такім чынам былі скасаваны ўсе даты, якія абазначалі пэўныя этапы пройдзенага беларускім народам шляху да сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Пры гэтым размытым аказаўся і сам дзень вызвалення горада Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, чым нанесена вялікая крыўда франтавікам, для якіх 3 ліпеня заўжды будзе святым.

*(Артыкул старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Сямёна Шарэцкага "Цярністы шлях да незалежнасці" чытайце на 2-й стар.).*

**Дипкурьер**

## Так оденет ли дипломатический фрак Владимир Гаркун?

Где-то с месяц назад "Народная воля" сообщала о том, что вице-премьер белорусского правительства аграрий Владимир Гаркун готовится перейти на дипломатическую работу. Предполагалось, что он будет исполнять обязанности Чрезвычайного и Полномочного посла в Латвии.

Однако на предполагаемое назначение повлияли некоторые обстоятельства. И Владимиру Гиляровичу придется, видимо, ехать в другую страну. Сейчас его готовят на должность Чрезвычайного и Полномочного посла в Литву. Там он должен сменить одного из первых белорусских послов Евгения Войтовича. По нашим сведениям, последний по возвращении в Минск будет работать в аппарате Министерства иностранных дел Беларуси.

**Владимир ГЛОД.**

**Честь имею**

## Десантницы

В роте связи 350-й отдельной мобильной бригады несут контрактную воинскую службу (на снимке — слева направо) гвардии ефрейтор Оксана Куряк, гвардии прапорщик Валентина Тинсенюк, гвардии ефрейтор Светлана Присталенко.

**Фото Александра ТОЛОЧКО, БелТА.**

**Мнение**

## Дело в том, что султан был слабоумным...

### Комментарий Юрия Ходыко к комментарию Ивана Антоновича

14 июля министр иностранных дел Беларуси И.Антонович прокомментировал ситуацию дипломатического скандала, спровоцированного режимом А.Лукашенко. Признаемся, что комментировать было что. Страны с демократическим государственным устройством не только отозвали своих послов из Минска и выслали белорусских, но и опубликовали список из более чем 100 фамилий государственных чиновников Беларуси, которым не будет разрешен въезд в эти страны. Список возглавляет сам А.Лукашенко.

Решение беспрецедентное. Такое же беспрецедентное, как и повод, вызвавший дипломатический скандал. Самовольное вторжение на территорию посольства есть акт агрессии по нормам международного права. Нормам таким же старым, как история международных отношений. Именно поэтому ничего подобного в летописи современной дипломатии не известно. Хотя есть пример из более старой белорусской истории.

В 1620—1621 гг. Речь Посполитая вела войну с Оттоманской империей. 150-тысячная армия султана Османа II осадила пограничную крепость Хотин. Три месяца войска Речи Посполитой под командованием Великого гетмана Великого княжества Литовского белорусского магната Яна Ходкевича вели тяжелые оборонительные бои. И одержали победу, несмотря на пятикратное численное превосходство врага. В середине ноября, бросив тяжелое вооружение, турецкое войско ушло на юг. Вслед за ним в Стамбул направилось посольство для заключения мира. Во главе с представителем старого белорусского рода князем Ю.Збаражским.

Переговоры тянулись долго. Почти год. Дело в том, что султан был слабоумным. При дворе боролись разные партии, что затрудняло переговоры и временами грозило их сорвать. Однажды дошло до угрозы нападения на посольский двор. Тогда Ю.Збаражский приказал двор укрепить и подготовиться к обороне. Дело, правда, до боя не дошло. Потому что султана отстранили от власти. Собрался диван — высший совещательный орган в монархической империи. Султану задали три простых вопроса, на которые он не смог ответить. Тогда его заточили в башню и на трон взошел монарх в здравом уме. Мир был заключен.

Конечно, если бы наш президент-историк знал белорусскую историю, он, возможно, не отдавал бы приказы заварить ворота посольских резиденций. Перекопать дорогу. Или снести ограду резиденции посла США. Он знал бы, что хамское, в прямом смысле, обращение с полномочными представителями других государств грозит если и не войной, как в средневековье, то международной изоляцией и прямыми экономическими потерями. А также позором, который кладется не на него одного, а на всю страну. Если бы у нас был "диван", способный оценить разумность поведения руководителя государства и принять необходимые меры по защите интересов этого государства, то, возможно, Беларусь жила бы лучше.

Но, увы...

Странно, однако, что образованный и неглупый человек — И.Антонович — пытается выдать меры, принятые государствами, чьи представители были оскорблены, за вмешательство во внутренние дела суверенной Беларуси. Ему, еще недавно делавшему доклад о правах человека, должно быть известно, что как свобода одного человека ограничена свободой других, так и суверенитет (свобода) одного государства — суверенитетом других. А потому нельзя безнаказанно нарушать международные нормы отношений с послами, каким бы суверенным ни считал себя президент Беларуси.

Беспрецедентный и унизительный ответ международного сообщества вполне заслужен белорусским режимом. Оно, это сообщество, давно с сочувствием к белорусским гражданам наблюдает за произволом и беззаконием, установившимся на нашей земле после так называемого "референдума" 1996 г. Но потребовался воистину хулиганский поступок в отношении его представителей, чтобы международное демократическое сообщество поняло, что с людьми типа А.Лукашенко нельзя договориться. Они признают только силу.

Поэтому даже в нашем невеселом положении мы можем порадоваться, что А.Лукашенко является только президентом безъядерной Беларуси. И у него нет возможности для "несимметричного" ответа обидчикам. Но расплачиваться за его дипломатические и политические "находки" придется нам. Гражданам Беларуси.

**Юрий ХОДЫКО, заместитель председателя БНФ.**

**P.S.** 27 июля пройдут шествие и митинг, посвященные 8-й годовщине юридического суверенитета Беларуси. Есть возможность высказать свое отношение к международной политике А.Лукашенко. Шествие начнется в 18.20 от кинотеатра "Октябрь".

## Пры правядзенні знешнегандлёвых аперацый неабходна будзе разлічвацца замежнай валютай

Сумесную пастанову "Аб разліках па экспартных аперацыях" прынялі Савет міністраў і Нацыянальны банк Беларусі. Дакументам вызначаны пералік тавараў і аказваемых паслуг, якія суб'екты гаспадарання нашай краіны будуць рэалізоўваць замежным спажыўцам толькі за замежную валюту.

Каменціруючы гэту пастанову па просьбе БелТА, ва ўпраўленні інфармацыі галоўнай фінансавай установы рэспублікі паведамілі, што асноўная мэта яе прыняцця — гэта павелічэнне паступлення замежнай валюты, неабходнай для аплаты імпарту перш за ўсё важных для беларускай эканомікі тавараў і паслуг, а таксама стварэнне дзяржаўных золатавалютных рэзерваў.

Паводле даных плацежнага балансу, за пяць месяцаў гэтага года экспарт тавараў і паслуг склаў 3,37 мільярда долараў ЗША, а паступленні валютнай выручкі на рахункі беларускіх суб'ектаў гаспадарання — толькі 1,17 мільярда долараў, або 34,7 працэнта. Гэта значыць, практычна больш за 65 працэнтаў паставак прадукцыі нашых прадпрыемстваў ажыццяўляюцца за беларускія рублі ці па бартэрных аперацыях. Імпарт жа тавараў і паслуг за гэты перыяд дасягнуў 3,95 мільярда долараў, у тым ліку аплачаны замежнай валютай — 1,43 мільярда, або 36,2 працэнта. Так што валютных сродкаў, якія паступаюць у рэспубліку, не хапае для аплаты імпарту.

Даволі абмежаваны пералік тавараў і паслуг, аплата экспарту якіх гэтай пастановай прадугледжана ў замежнай валюце, умоўна можна падзяліць на дзве групы. Па-першае, гэта асноўныя канкурэнтаздольныя на сусветным рынку беларускія тавары і паслугі, аплата якіх замежнай валютай дасць магчымасць істотна павялічыць яе прыток у рэспубліку. Па-другое, важнейшыя для эканомікі краіны тавары, якія ў асноўным набываюць за мяжой за замежную валюту і рээкспарт якіх у мэтах эканамічнай бяспекі дзяржавы неабходна прадухіліць. Прынятыя меры маюць вымушаны і часовы характар. Яны, на думку спецыялістаў, накіраваны на стабілізацыю валютнага рынку і абменнага курсу беларускага рубля.

Дарэчы, прынятая пастанова фактычна ўступае ў дзеянне з 17 жніўня бягучага года. Гэта дасць магчымасць суб'ектам гаспадарання як нашым, так і замежным, выканаць свае абавязацельствы па раней заключаных дагаворах.

Экспарт жа іншых беларускіх тавараў і паслуг, не названых у дакуменце, можа свабодна праводзіцца як за замежную валюту, так і за беларускія рублі ў рамках заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**БелТА.**

## З назначэннем!

Як паведамілі БелТА з прэс-службы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, указам кіраўніка дзяржавы **СІНЯЎСКІ Яўген Васільевіч** назначаны намеснікам міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Прэзідэнт краіны даў згоду на назначэнне:

**ЗЕЛЯНЦОВА Пятра Уладзіміравіча** — намеснікам міністра прамысловасці Рэспублікі Беларусь;

**КІСЛУХІНА Сяргея Уладзіміравіча** — старшынёй Камітэта дзяржаўных знакаў пры Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусь;

**МЯДЗВЕДЗЕВА Андрэя Васільевіча** — старшынёй Чэрыкаўскага райвыканкама;

**ДЗЕРВЯНКОВА Уладзіміра Іванавіча** — кіраўніком адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Гомеля;

**ПРАТАСАВІЦКАГА Мікалая Андрэевіча** — кіраўніком спраў — членам Гомельскага аблвыканкама.

**БелТА.**

## Памер пенсіі павінен стаць стымулам для якаснай працы і высокіх заробкаў

Дзяржаўныя гарантыі пенсіённага забеспячэння грамадзян павінны няўхільна выконвацца, лічыць Федэрацыя прафсаюзаў беларуская. Аб гэтым гаворыцца ў пісьме, накіраваным старшынёй ФПБ Уладзімірам Ганчарыкам прэм'ер-міністру краіны Сяргею Лінгу.

На думку прафсаюзаў, настаў час забяспечыць поўную залежнасць памеру пенсій ад заробку, а таксама ўстанавіць гарантыю права работнікаў на пенсію за працу ў шкодных і цяжкіх умовах за неатэставаныя па віне наймальнікаў перыяды. Прыкладам валакіты ў сацыяльнай сферы названа рашэнне аб адмене падаходнага падатку з аднаразовых кампенсацыйных выплат сем'ям загінуўшых, тым, хто атрымаў траўмы і прафесійныя захворванні на вытворчасці. Яно зацягнулася на два гады.

Прафсаюзны лідэр падкрэслівае, што рэфармаванне сістэмы пенсійнага забеспячэння грамадзян рэспублікі неапраўдана зацягваецца. У сувязі з гэтым прасочваецца тэндэнцыя выраўноўвання мінімальных і максімальных пенсій. Дзейнічае і рэгрэсіўная шкала абмежавання заробку для вызначэння памеру пенсіі людзям, індывідуальны каэфіцыент заробку якіх складае 1,3 і вышэй. ФПБ настойвае на ўзмацненні дыферэнцыяцыі памераў пенсій грамадзянам, якія мелі высокія заробкі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БелТА.**

## Эстонія гатова стаць марскімі варотамі для Беларусі і іншых краін СНД

Рашэнне аб правядзенні двухбаковых перагавораў з шэрагам краін СНД, якія не маюць выхаду да мора, прынята эстонскім урадам. У лік будучых патэнцыяльных партнёраў Эстоніі ўваходзіць і Беларусь.

Прадстаўнікі эстонскага ўрада ў сваіх каментарыях падкрэсліваюць, што Эстонская Рэспубліка зацікаўлена ў заключэнні транзітных дагавораў з шэрагам дзяржаў СНД, бо апошнім часам аб'ём іх гандлёвага абароту з краінамі Захаду пастаянна павялічваецца. Праўда, суседнія з Эстоніяй краіны становяцца ўсё больш сур'ёзнымі канкурэнтамі для эстонскіх портаў. Перш за ўсё гэта Расія, а таксама Латвія, якая па некаторых паказчыках ужо істотна апярэдзіла Эстонію.

Мяркуецца, што грузапатокі ў эстонскія парты пойдуць па шасейных дарогах і чыгунках, а з Арменіяй і Грузіяй - самалётамі. Дагавор аб чыгуначным транзіце з Беларуссю дасць магчымасць Эстоніі разгрузіць асноўныя чыгуначныя артэрыі, якія звязваюць яе з Расіяй. На думку эстонскага ўрада, гэта павінна спрыяльна адбіцца на тавараабмене не толькі з Беларуссю, але таксама і з Расіяй, Украінай.

**Вадзім МІЛЦЫН, БелТА.**

**Громкое дело**

## Белорусские следователи применяют пытки к находящемуся в заключении депутату парламента Андрею Климову и к его родственникам

Третий месяц следователь Александр Кужель запрещает свидание с находящимся в заточении депутатом Андреем Климовым. Милицейский полковник сознательно причиняет нравственные страдания матери и жене парламентария, которого он почти полгода содержит в СИЗО. Последнее свидание с родным человеком было у Климовых 22 мая 1998 года.

Действия данного должностного лица по отношению к находящимся от него в зависимости лицам классифицируются как пытка.

Конвенция против пыток и других жестоких, бесчеловечных или унижающих достоинство видов обращения и наказания, принятая Генеральной Ассамблеей ООН 10 декабря 1984 года, определяет пытку как **"любое действие, которым какому-нибудь лицу умышленно причиняется сильная боль или страдание, физическое или нравственное, чтобы получить от него или третьего лица сведения или признания, наказать его за действие, которое совершило оно или третье лицо или в совершении которого оно подозревается, а также запугать или принудить его или третье лицо, или по любой причине, основанной на дискриминации любого характера, когда такая боль или страдание причиняется государственным должностным лицом, выступающим в официальном качестве, или по их подстрекательству, или с их ведома или молчаливого согласия".**

Начальник следственного управления полковник А.Кужель как раз является тем должностным лицом, выступающим в официальном качестве, которое сознательно причиняет страдание матери узника — инвалиду второй группы, человеку с больным сердцем Алле Петровне Климовой.

Александр Кужель наказывает лишением свидания Татьяну Леонович, жену содержащегося в заключении парламентария А.Климова.

Можно предположить, что следователь А.Кужель не дает свидания родственникам арестанта, чтобы запугать депутата и получить от него признания в совершении преступления.

Полагаю, что если в результате пребывания "в лапах" следственного управления Андрей Климов умрет или станет инвалидом, полковника А.Кужеля и его помощников за применение пыток будет судить международный трибунал.

Когда полгода назад милиция арестовала депутата Климова, он был абсолютно здоров. Старший лейтенант Климов служил пожарным, а туда, как известно, берут только людей с крепким здоровьем. Полугодовое содержание в нечеловеческих условиях минского СИЗО подорвало здоровье парламентария. Сегодня, по словам адвоката, — это худой, бледный с отеками под глазами человек, у которого непрерывные сердечные боли из-за двухмесячного лишения ночного сна.

Следственный "генерал" А.Кужель отказывает арестанту в госпитализации и медицинском освидетельствовании под тем диким, с точки зрения здравого смысла, предлогом, что ранее у него не было хронических заболеваний (?!). Целенаправленно, по всей видимости, стремятся сделать из здорового человека инвалида.

Татьяна Леонович намеревается стать в пикет с плакатом: "Полковник Кужель, Вы забрали у меня мужа молодым, здоровым, красивым! Вы лишили его всего этого!"

Состояние здоровья парламентария-узника вызывает серьезную озабоченность у правоохранительных организаций. 21 июля 1998 года Белорусский Хельсинкский комитет обратился к прокурору г.Минска Н.Куприянову и начальнику следственного комитета А.Кужелю с ходатайством проверить условия содержания под стражей депутата Верховного Совета 13-го созыва Андрея Климова. Эта правоохранительная организация также классифицирует действия следствия как пытки.

Что ответят на это президентские правоохранительные органы?

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Мнение**

## Уполномоченный должен оставаться человеком

Проект закона Республики Беларусь "Об уполномоченном по правам человека", подготовленный общественностью и опубликованный в "Народной воле" 10 июля 1998 года (N121), продуман достаточно досконально. Неверно, на мой взгляд, разработчики подошли лишь к вопросу об общественной и политической деятельности Уполномоченного.

В статье 8-й проекта записано, что "Уполномоченный не вправе заниматься какой бы то ни было политической или общественной деятельностью. На время пребывания в должности Уполномоченный прекращает свое членство в политических партиях, общественных организациях и иных общественных объединениях".

Во-первых, общественные организации и объединения — это и общество любителей кошек, и объединения коллекционеров, и союз офицеров, и женсовет и т.д. Исходя из смысла этой статьи, гражданин или гражданка, будучи избранными на должность Уполномоченного, не имеют права представить на выставку свою любимую собаку. Должны распрощаться со своими друзьями-коллекционерами, с которыми регулярно обменивались почтовыми марками или кулинарными рецептами. Обязаны обходить стороной Дом ветеранов, в котором уж точно за чашкой чая или рюмкой чего-нибудь покрепче те, с кем съеден не один пуд соли, горячо обсуждают последние политические новости.

Во-вторых, при избрании на данную должность политические мировоззрения и взгляды кандидата были известны. И раз избрали, то, следовательно, взгляды эти помехой не были. Почему же они вдруг станут помехой для осуществления обязанностей Уполномоченного? Ведь прекращение членства в партии, движении, обществе вовсе не означает, что человек откажется от своих убеждений. Что, увидев идущего навстречу однопартийца, Уполномоченному следует перебегать на другую сторону улицы? Ведь на банальный при встрече вопрос "Как живешь?" ответ будет явно политический.

Понятно требование о недопустимости занятия иной оплачиваемой деятельностью. Но к чему запрет на занятие неоплачиваемой деятельностью? Почему, к примеру, Уполномоченный не может быть членом родительского комитета школы, молиться в храме, петь в церковном хоре? Руководствуясь 8-й статьей, Уполномоченному надо становиться атеистом. Ведь не только партии разные, но и конфессии — тоже.

Ограничение на занятие политической деятельностью Уполномоченного означает запрет на участие в демонстрациях и шествиях, не дает ему право выступить на собраниях и митингах. Ущемляются политические права Уполномоченного как гражданина, гарантированные статьями 23, 31, 33, 35 Конституции Республики Беларусь.

Предположим, изберут на эту должность уважаемого Михаила Пастухова. И он, в соответствии с 8-й статьей, обязан будет выйти из Белорусской ассоциации журналистов. Кому от этого станет лучше?

Полагаю, что все ограничения надо выразить иначе, например: "...**Уполномоченный не может заниматься иной оплачиваемой деятельностью, а равно неоплачиваемой, препятствующей исполнению обязанностей по занимаемой должности**..." И пусть он по-прежнему собирает гербарии, встречается с однокашниками, ездит с друзьями за грибами — то есть живет, как все люди, не прячась от них за охраняемыми стенами и затемненными окнами автомобиля.

**Валерий ЩУКИН.**

*Сямён ШАРЭЦКІ,*
*старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання*

# Цярністы шлях да незалежнасці

## Да 8-й гадавіны з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі

Беларусы, як і іншыя народы свету, маюць права на сваю незалежнасць і дзяржаўнасць, і яны заўсёды імкнуліся да гэтага. Ужо ў IX стагоддзі продкі беларусаў, крывічы, мелі сваю дзяржаву — Полацкае княства, якое на працягу стагоддзяў захоўвала сваю незалежнасць. Вядомым у той час было і Тураўска-Пінскае княства, якое стварылі іншыя прародзічы беларусаў — дрыгавічы.

Далейшае фарміраванне беларускай нацыі адбывалася ў Вялікім княстве Літоўскім, першай сталіцай якога стаў Навагрудак, а з 1323 года — горад Вільня. У сярэднія вякі Вялікае княства Літоўскае было адной з самых буйных і развітых дзяржаў Еўропы. Ужо ў XVI стагоддзі тут была праведзена аграрная рэформа, у выніку якой пры вызначэнні абавязкаў перад дзяржавай стала ўлічвацца не толькі колькасць, але і якасць зямлі. Развіваліся рамёствы і адносна хутка раслі гарады. Шмат чаго было зроблена ў Вялікім княстве Літоўскім і ў галіне духоўнага жыцця. Напрыклад, ужо ў 1570 годзе ў Вільні быў адкрыты калегіум (на англійскі лад — каледж), які праз дзевяць гадоў ператварылі ў акадэмію, адкрыўшы пры гэтым калегіумы ў Берасці, Пінску, Навагрудку, Полацку і іншых гарадах. Вялікі ўклад быў унесены ў распрацоўку беларускай мовы, якая з'яўлялася ў Вялікім княстве Літоўскім дзяржаўнай. Менавіта на беларускай мове былі выдадзены ў 1529, 1566 і 1588 гадах Статуты Вялікага княства Літоўскага, у якіх ужо тады замацоўваліся многія дэмакратычныя формы грамадскага і палітычнага жыцця.

Выгаднае геапалітычнае становішча Беларусі прываблівала яе суседзяў, і з цягам часу яна стала "разменнай манетай" у імперскіх амбіцыях іншых дзяржаў, якія змагаліся паміж сабою за валоданне яе тэрыторыяй. Сваю дзяржаўную незалежнасць Беларусь канчаткова страціла на доўгія гады пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795 гг.) і далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі. Беларусь падзялілі на два генерал-губернатарствы, чым парушылі яе цэласнасць. У 1833 годзе быў зачынены Віленскі універсітэт як асноўная крыніца беларускасці. На рускую мову навучання перавялі гімназіі Магілёўскай і Віцебскай губерняў. У школах пашырылася выкладанне не толькі рускай мовы, але гісторыі і геаграфіі Расіі.

Для апраўдання русіфікацыі беларускага народа была сфарміравана тэорыя "западнорусизма", якая адмаўляе існаванне беларускай нацыі наогул. Менавіта ў 30-х гадах XIX стагоддзя тагачасны міністр адукацыі "Всероссийской империи" граф С.Увараў сфармуляваў шавіністычную дактрыну, згодна з якой апраўдвалася русіфікацыя ўсіх народаў, якія ўваходзілі ў імперыю: "Православие, самодержавие, народность". У 1840 годзе Мікалай забараніў нават ужыванне назваў Беларусь і Літва. У той жа час быў адменены і Статут Вялікага княства Літоўскага.

У выдадзеным у 1874 годзе "Русском энциклопедическом словаре" (т. 4, отдел 1, с. 507) гаварылася, што "название Беларусь есть географический термин и не имеет особого этнографического значения, потому что ни особой народности, ни даже племени белорусского не существовало..."

Аднак беларускі народ не мог пагадзіцца з гэтым і ўвесь час вёў барацьбу за сваю незалежнасць. Адной з яскравых старонак гэтай барацьбы з'яўляецца паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Менавіта К.Каліноўскі адным з першых барацьбітоў за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці ставіў адначасова і задачу змены сацыяльна-палітычнага ладу. Яго лозунг "Не народ для ўрада, а ўрад для народа" і сёння застаецца надзвычай актуальным.

Гаворачы аб метадах, якія прымяняліся царскім урадам для скарэння беларусаў яго палітыцы, трэба адзначыць, што амаль пасля кожнага паўстання ўсё шляхецкае насельніцтва прымушалі падпісваць вернападданніцкія лісты. Вось і пасля паўстання пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага кожны шляхціц павінен быў падпісаць ліст наступнага зместу: "Всеавгустейший монарх! Смуты революции вовлекли многих из дворян Виленской (или: Могилевской, Минской, Гродненской, Витебской) губернии к нарушению верноподданнической присяги Вашему Величеству. Отвергая действия революционной партии, по причине которой от нескольких месяцев земля наша обагряется кровью по большей части напрасных жертв, чистосердечно и гласно просим тебя, Государь, считать нас верноподданными твоими, заявляя при сем, что мы, составляя одно целое и нераздельное с Россиею, остаемся навсегда верноподданными твоими, вверяя судьбу дворянства, августейший монарх, твоему неограниченному милосердию".

Як бачна з прыведзенага факта, нічога новага не было прыдумана ў Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, калі дэпутатаў Вярхоўнага Савета прымушалі падпісваць такія ж вернападданніцкія лісты, а да тых, хто гэтага не зрабіў, як і ў той далёкі час, прымяняюцца рэпрэсіўныя меры.

Але ні прыніжэнні, ні канфіскацыі, ні турмы і вісельні не змаглі скарыць беларускі народ. Лагічным завяршэннем яго барацьбы за адраджэнне сваёй дзяржавы стала абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэтаму ў многім паспрыяла Лютаўская рэвалюцыя 1917 года ў Расійскай імперыі, у час якой быў разбураны феадальна-манархічны механізм утрымання розных народаў у адной дзяржаве. Рашэнне аб абвяшчэнні незалежнасці беларускай дзяржавы было прынята 25 сакавіка 1918 года на пасяджэнні Рады БНР. Гэты крок аказаў значны ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці ў беларускага народа. Менавіта тады была зацверджана і дзяржаўная сімволіка БНР, якая з'яўляецца набыткам нацыі, а не палітычнага ладу, як гэта да сённяшняга дня лічаць некаторыя палітыкі. Доказам правільнасці гэтага сцвярджэння з'яўляецца той факт, што акрамя краін, якія ўвайшлі ў якасці рэспублік у склад Савецкага Саюза, амаль ва ўсіх іншых сімволіка не мянялася на працягу стагоддзяў, хоць сацыяльна-палітычны лад і мяняўся па некалькі разоў. Ды і ў былых савецкіх рэспубліках (Расія, Украіна, Латвія, Літва і інш.) пасля адраджэння іх дзяржаўнасці сімволікай сталі іх даўнія гербы і сцягі. Дзяржаўным гербам БНР была зацверджана "Пагоня", якая, пачынаючы з XIV стагоддзя, адыгрывала гэтую ролю ў Вялікім княстве Літоўскім. Дзяржаўным сцягам БНР стала белае палотнішча з чырвонаю гарызантальнаю паласою ў цэнтры. Гэты сцяг з'яўляецца адным з тых, якія мелі ваяры Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў Грунвальдскай бітве 1410 г.

Са стварэннем незалежнай, вольнай Беларускай Народнай Рэспублікі ніяк не маглі пагадзіцца бальшавікі, якія ў кастрычніку 1917 г. захапілі ўладу ў Петраградзе, і ставілі сваёй задачаю стварэнне сусветнага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І 1 студзеня 1919 г. у якасці альтэрнатывы БНР у Смаленску была абвешчана Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь, якая, на жаль, толькі на паперы лічылася незалежнай суверэннай дзяржавай. На самай жа справе з першых дзён яе існавання ўсе вышэйшыя кіраўнікі рэспублікі прызначаліся Масквою, а ў канцы 20-х гадоў і наогул пачала адраджацца тэорыя расейскага месіянства. Згодна з гэтай тэорыяй, заваёва Расеяй іншых народаў стала зноў тлумачыцца як дзяржаўная неабходнасць, якая нібыта супадала з інтарэсамі саміх заваяваных народаў. Феадальна-манархічны механізм утрымання розных народаў у складзе Расейскай імперыі быў заменены ў Савецкім Саюзе камуністычна-партыйным "дэмакратычным цэнтралізмам", які па сваёй сутнасці быў толькі цэнтралізмам. Усе захады дзеля нацыянальнага адраджэння сталі лічыцца "контррэвалюцыйнай з'явай, накіраванай супраць дыктатуры пралетарыяту". Яскравым помнікам тых гадоў, калі Савецкі Саюз, кажучы словамі Леніна, стаў "турмою народаў" з'яўляюцца дзесяткі Курапатаў, раскіданых па ўсёй былой яго тэрыторыі.

Толькі ў 1990 г., калі ўжо стала бачна, што створаная бальшавікамі новая імперыя — Савецкі Саюз, як і прыдуманы імі сацыялізм, — аказаліся нежыццяздольнымі, рэспублікі пачалі прымаць рашэнні аб дзяржаўным суверэнітэце. Дарэчы, прыклад у гэтым паказала Расійская Федэрацыя. Беларусь прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце 27 ліпеня 1990 г.

Дзяржаўны суверэнітэт, гаварылася ў Дэкларацыі, абвяшчаецца ў імя вышэйшай мэты свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязацельствамі.

У жніўні 1991 г. Дэкларацыі аб суверэнітэце была нададзена сіла закона, а сама Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынята 15 сакавіка 1994 г. Наша краіна з'яўляецца, згодна з Канстытуцыяй, унітарнай дэмакратычнай прававой сацыяльнай дзяржавай, якая валодае вярхавенствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

25 сакавіка 1918 года, 1 студзеня 1919 года, 27 ліпеня 1990 года і 15 сакавіка 1994 г. — гэта ўсё этапы цярністага шляху Беларусі і яе народа да незалежнасці. Кожную з гэтых дат можна ацэньваць па-рознаму, але яны належаць гісторыі Рэспублікі Беларусь, і нельга ніводную з іх ануліраваць. Аднак прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка ў выніку падмены паняццяў і фальсіфікацыі вынікаў лістападаўскага (1996 г.) рэферэндуму абвясціў дзяржаўным святам — Днём Рэспублікі — 3 ліпеня, дзень вызвалення горада Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Такім чынам былі скасаваны ўсе даты, якія абазначалі пэўныя этапы пройдзенага беларускім народам шляху да сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Пры гэтым размытым аказаўся і сам дзень вызвалення горада Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, чым нанесена вялікая крыўда франтавікам, для якіх 3 ліпеня заўжды будзе святым.

За скасаваннем з беларускага календара Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (27 ліпеня) і іншых датаў (25 сакавіка, 1 студзеня, 15 сакавіка), што нагадвалі жыхарам Беларусі аб нялёгкім шляху да дзяржаўнай незалежнасці, трэба, я лічу, бачыць практычныя крокі па ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Пазбаўлена статусу дзяржаўнай нацыянальная сімволіка. Зноў апынулася ў апале наша родная мова. Людзям убіваюць у галовы, што Беларусь нібыта не можа жыць без Расеі.

Галоўнымі дарадчыкамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сталі палкоўнікі расейскай арміі. Так, развіццё навукі і культуры беларускага народа аддадзена ў рукі расейскага палкоўніка У.Замяталіна. Пры гэтым я хачу падкрэсліць, што беларускай гісторыі вядомы прозвішчы не толькі С.Уварава, М.Мураўёва і У.Замяталіна. Беларускі народ заўжды будзе ўдзячны рускім па нацыянальнасці А.Герцэну, М.Дабралюбаву, М.Бакуніну, якія выказваліся за правы беларусаў на сваё самавызначэнне. Назаўжды ў памяці беларусаў застануцца і тыя сыны вялікага рускага народа, якія змагаліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны з нашым агульным ворагам — фашызмам. Прыклад сваёй добрасумленнасці паказваюць у сённяшнія цяжкія часы рускія па нацыянальнасці дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь У.Савічаў і В.Шчукін.

Разам з ліквідацыяй усяго, што нагадвае людзям аб пражыванні іх у краіне, якая здавён мае назву Беларусь, Лукашэнка і яго акружэнне, я лічу, ставяць сваёй задачаю вяртанне да таталітарнага ладу. Менавіта таму побач з партрэтамі Лукашэнкі амаль заўжды на святкаваннях у Мінску выносяцца партрэты Сталіна. Пры гэтым заўважым, што ўжо і ў Маскве побач з партрэтамі Сталіна пачалі з'яўляцца партрэты Лукашэнкі.

У Рэспубліцы Беларусь пад прыкрыццём так званага лістападаўскага рэферэндуму растаптана Канстытуцыя, парушаюцца законнасць, правы і свабоды чалавека. Для барацьбы з іншадумцамі адраджаюцца метады Мураўёва і Цанавы. Дарэчы, першы з іх прызнаваўся: "Очень часто я сажаю мятежников без малейшей вины, даже подозрения нет; ну в таком случае я всегда думаю: посидит под замком, да подолее, быть может, что-нибудь да отыщется. И что же вы думаете? Я был счастлив, что всегда что-нибудь за сидельцем-то моим и отыскивал. Ну тогда и подай сюда!".

У Беларусі сфарміравалася новая разнавіднасць дыктатарскага ладу, які народ празваў лукашызмам. На ўзбраенне ўзяты сацыяльная дэмагогія і папулізм, улады абапіраюцца на незадаволеных становішчам, што склалася пасля пацярпеўшага крах бальшавіцкага сацыялізму і распаду Савецкага Саюза. Радзімаю лукашызму стала Беларусь, таму што менавіта тут, як ні ў адной іншай былой камуністычнай краіне, затрымалася ажыццяўленне рэформаў па перабудове цэнтралізавана-планавай эканомікі ў рынкавую. Прыцягальным лукашызм стаў і ў іншых краінах (Расія, Украіна і г.д.), дзе таксама ёсць пэўныя цяжкасці з перабудовай эканомікі і адрадзіліся камуністычная партыі ўсё на тых самых ленінска-сталінскіх прынцыпах.

Сёння лукашызм ужо становіцца міжнароднай плынню і прэтэндуе на стварэнне, па словах Лукашэнкі, "нябачанай дагэтуль у свеце" славянскай дзяржавы. Лукашэнкавы дарадчыкі адкрыта заяўляюць аб сваіх імкненнях да валодання ядзернай зброяй. Усё гэта нясе вялікую небяспеку. Таму неабходна аб'яднацца ўсім дэмакратычным сілам як у Беларусі, так і ў іншых краінах, каб своечасова пазбавіцца ад лукашызму як новай ракавай пухліны на целе грамадства. Беларусь павінна, як таго патрабуюць Дэкларацыя аб суверэнітэце і Канстытуцыя краіны, стаць дэмакратычнай прававой дзяржавай і заняць сваё пачэснае месца ў сям'і еўрапейскіх народаў.

**Ад рэдакцыі газеты "Народная воля"**
*Друкуючы артыкул С.Шарэцкага, старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, легітымнасць якога прызнаецца ўсім цывілізаваным светам, рэдакцыя пакідае права на каментарый не толькі за тымі асобамі, прозвішчы якіх называюцца ў матэрыяле, але і за ўсімі жадаючымі сказаць сваё слова. Галоўнае — меркаванні павінны быць канкрэтнымі, аргументаванымі, неабразлівымі.*

## В Уручье ансамбли под открытым небом намерены, сменяя друг друга, шесть часов кряду исполнять "любимые песни" слушателей

Сегодня с 14.00 до 20.45 на территории Центрального рынка строительных материалов, что в Уручье, состоится большой концерт известных белорусских коллективов и исполнителей: ансамбля "Песняры", рок-групп "Палац", "Элегант Компани", "К° Слука и Ковалев", "Дизель Экшн", саксофонистки Натальи Марченко.

Вести концерт будут популярные ведущие "Радио Би-Эй" Сергей Кузин и Татьяна Мартынова.

**Виталий ЧАУССКИЙ.**

## Доучились...

**"Учиться, учиться и учиться!.."**
**(В.И.Ленин)**

*Нас учили много хлопать,*
*Нас учили "горло драть",*
*Нас учили дырки штопать,*
*Нас учили долго ждать.*
*Нас учили песнопеньям,*
*Нас учили тесноте,*
*Нас учили нетерпенью,*
*Нас учили слепоте.*

*Нас учили ненавидеть,*
*Научили враждовать,*
*Научили слез не видеть,*
*Научили убивать.*
*Научили не стесняться,*
*Научили голодать,*
*Научили напиваться,*
*Научили воровать.*

*Разучили нас стремленью,*
*Разучили доброте,*
*Разучили вдохновенью,*
*Разучили красоте.*
*Разучили удивляться,*
*Разучили быть детьми,*
*Разучили улыбаться,*
*Разучили быть ЛЮДЬМИ!*

**Евгений ТИХОНОВИЧ,**
**рабочий МЭТЗ.**

## Пастаўкі электраэнергіі ў Беларусь з Літвы, магчыма, будуць павялічаны

Пытанні паставак у Беларусь літоўскай электраэнергіі разгледжаны ў ходзе сустрэчы спецыялістаў канцэрна "Белэнерга" і АТ "Летувас энергія". Перагаворы прайшлі ў Вільнюсе 20 ліпеня.

Самым складаным пытаннем ва ўзаемаадносінах літоўскага і беларускага бакоў з'яўляюцца разлікі. На сённяшні дзень "Белэнерга" завінавацілася літоўскім пастаўшчыкам 15 мільёнаў літаў. Аднак, як стала вядома карэспандэнту БелТА, канцэрн мае намер у бліжэйшы час доўг пагасіць — за кошт пастаўкі праз пасрэднікаў у Літву расійскага прыроднага газу. "Гэта нас задавальняе і, магчыма, дасць магчымасць нават павялічыць пастаўкі электраэнергіі ў Беларусь", — заявіў міністр гаспадаркі Літвы Вінцас Бабілюс.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**
Вільнюс.

## Гомельскія эпідэміёлагі робяць захады па недапушчэнні на тэрыторыю рэспублікі халернага вібрыёну з тэрыторыі Украіны

Халерны вібрыён, які стаў прычынай першых захворванняў на Украіне, выяўлены ў водах Чорнага мора. Аб гэтым карэспандэнту БелаПАН паведамілі ў Гомельскім абласным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, які ўважліва сочыць за развіццём сітуацыі ў суседняй краіне і актыўна рыхтуецца супрацьстаяць распаўсюджванню гэтай хваробы на тэрыторыю Беларусі.

Паводле звестак эпідэміёлагаў, у бліжэйшых да Беларусі ўкраінскіх абласцях становішча нармальнае, а ў найбольш неспрыяльных паўднёвых рэгіёнах праводзіцца комплекс проціэпідэміялагічных мерапрыемстваў. Дарэчы, лічаць спецыялісты, супакойвацца рана, паколькі "халерны" сезон звычайна прыпадае на жнівень.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ,**
**БелаПАН.**

## Прэзідэнт Літвы заявіў аб неабходнасці паляпшэння аховы граніцы

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус днямі наведаў беларуска-літоўскую граніцу, дзе заявіў аб неабходнасці далейшага паляпшэння аховы граніцы і падрыхтоўкі персаналу. Аб гэтым БелаПАН паведаміла Балтыйская служба навін (BNS).

Прэзідэнт агледзеў дэмаркацыйны слупок на першай беларуска-літоўскай граніцы, устаноўлены ў чэрвені мінулага года. Як вядома, работы па дэмаркацыі граніцы (працягласцю 650 км) Літва і Беларусь падзялілі папалам. Літва ўжо дэмаркіравала 283 кіламетры і плануе завяршыць работы да канца гэтага года. Беларускія пагранічнікі ўстанавілі пакуль толькі часовыя слупы, пастаянныя ж будуць у хуткім часе ўстаноўлены на чатырох важнейшых участках граніцы па 30 кіламетраў кожны.

В.Адамкус заўважыў, што ў пагранпаліцыі яшчэ ёсць факты карупцыі, і заклікаў урад і МУС прыняць усе меры для прадухілення злоўжыванняў службовым становішчам. Літоўскі прэзідэнт агледзеў будуемае памяшканне пагранзаставы ў Шальчынінкаі. Гэтае будаўніцтва абыдзецца Літве прыкладна ў 2 мільёны літаў. На новай заставе 70 чалавек будуць ажыццяўляць кантроль за 70-кіламетровым участкам граніцы. Будаўніцтва плануецца завяршыць да канца верасня.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## У першым паўгоддзі ў Мінску было абясшкоджана 8 груп нелегальных мігрантаў

Паводле інфармацыі ГУУС Мінскага гарвыканкама, у першым паўгоддзі 1998 года ў сталіцы Беларусі органамі ўнутраных спраў абясшкоджана 8 груп нелегальных мігрантаў. Затрымана каля 140 чалавек, якія бесперашкодна прыбылі ў Мінск з Расіі, куды, у сваю чаргу, трапілі па візах, выдадзеных расійскімі пасольствамі за мяжой. Падчас адной з аперацый, праведзенай гэтай зімою, у аднапакаёвай кватэры ў Першамайскім раёне горада было затрымана 80 нелегальных мігрантаў.

Часовае ўтрыманне ў Мінску, а затым і выгнанне нелегальных мігрантаў за межы Беларусі — туды, адкуль прыехалі — абыходзіцца нятанна, канстатавалі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, што прайшла 21 ліпеня ў ГУУС Мінскага гарвыканкама. Аднак цяпер, дзякуючы актыўнаму ўзаемадзеянню з вярхоўным камісарам ААН па справах бежанцаў, гэтая праблема вырашаецца больш паспяхова, чым некалькі гадоў таму.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**К юбилею Адама Мицкевича**

## Его помнит Рим

*Нашего знаменитого земляка Адама Мицкевича знают во многих странах. В разных уголках мира он оставил о себе хорошую память, добрый след и проникновенные строки.*

*Известно, что граждане ряда стран внесли свой вклад в борьбу за объединение Италии. Среди них был и Адам Мицкевич.*

Античное искусство Древнего Рима с юных лет поэт постигал с чувством трепетного волнения и восхищения перед красотой и совершенством деяний человеческого разума. В своем творчестве Мицкевич нередко обращался к его традициям. Так в одной из поэм в качестве эпиграфа он берет слова Горация: "Неабмежаваную славу заслужылі тыя, хто асмеліўся пакінуць пратаптаныя сцежкі грэкаў і ўспяваць справы сваёй Айчыны". А в поэме "Конрад Валенрод" Мицкевич обращается к словам средневекового итальянского писателя и мыслителя Н.Макиавелли: "Бо вы павінны ведаць, што ёсць два роды барацьбы... таму трэба быць лісіцай і львом".

Дух поэзии Данте и Петрарки обострил поэтическое восприятие Мицкевича. Образ возлюбленной Марыли, звонкий и трагический аккорд всей жизни поэта, во многом схож с Беатриче для Данте и Лаурой для Петрарки.

Пройдя через Альпы 18 ноября 1829 г., поэт прибыл в Рим. Страна, художественные традиции которой, будоражили поэтический гений Мицкевича, покорила его. Нескончаемый вал впечатлений поглотил поэта до такой степени, что он не мог писать. В одном из писем своему другу Мицкевич утверждал, что о Риме трудно рассказывать, о нем следует писать только стихами. Конечно, большую часть времени Мицкевич посвящает чтению в основном римских историков. Попытки приобщения к светской жизни наводили на него скуку. Истинную радость и творческое вдохновение Мицкевич черпал в кругу своих новых друзей, среди которых были датский скульптор Б.Торвальдсен, русский художник К.Брюллов, американский писатель Ф.Купер и другие. Но наступали минуты одиночества, те тревожные и страшные минуты, когда сердце разрывалось от боли за судьбу угнетенной Родины. И тогда в сердце рождались проникновенные строки.

19 апреля 1831 г. поэт покинул Рим, казалось, навсегда. Но судьба вновь свела Адама Мицкевича, преданного идеям свободолюбия и независимости народов, с Италией, но уже Италией революционной. С 1845 г. в стране образовалось национальное движение, стремившееся объединить страну и освободить северные провинции от австрийской оккупации. Революция 1848 г. в Западной Европе была встречена Мицкевичем с великой надеждой. Борьбу с австрийским гнетом на территории Италии он рассматривал как часть борьбы за независимость своей Родины. 21 января 1848 г. Мицкевич направляется в Рим для организации легионов в поддержку патриотов. По возвращении в Париж основывает газету "Трибуна народов", со страниц которой решительно призывает к борьбе с австрийским владычеством, за независимость Италии.

В Риме не забыли его вклад. Здесь тоже готовятся отметить юбилей знаменитого поэта.

**Юрий ПОПОВ.**

**Віншуем!**

## З ганаровым званнем!

"Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь" — такое ганаровае званне будзе насіць цяпер акадэмік-сакратар аддзялення медыка-біялагічных навук, дырэктар Інстытута фізіялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук Валерый Мікалаевіч Гурын. Ва ўказе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі адзначаецца значны асабісты ўклад вучонага ў развіццё фізіялагічнай навукі, выхаванне і падрыхтоўку навуковых кадраў.

**БелТА.**

## Беларускія нафтавікі атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды

За шматгадовую плённую працу, вялікі асабісты ўклад у развіццё нафтавай прамысловасці рэспублікі група работнікаў вытворчага аб'яднання "Беларуснафта" атрымала дзяржаўныя ўзнагароды. Адпаведны ўказ кіраўнік дзяржавы падпісаў 20 ліпеня.

У прыватнасці, медалём "За працоўныя заслугі" ўзнагароджаны майстар па капітальным і падземным рамонце свідравін Рэчыцкага ўпраўлення па павышэнні нафтааддачы пластоў і рамонце свідравін Раман Быбліў і начальнік цэха па здабычы нафты і газу нафтагазаздабываючага ўпраўлення "Рэчыцанафта" Якаў Кім.

Начальніку Светлагорскага аграпрамысловага ўпраўлення вытворчага аб'яднання "Беларуснафта" Віктару Латугоўскаму і загадчыку аддзела заканчэння свідравін Дзяржаўнага навукова-даследчага і праектнага інстытута нафты Барысу Мінееву прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь".

**БелТА.**

## Роўна праз год Валерый Лявонцьеў спеў "на біс"

Парад зорак на "Славянскім базары ў Віцебску" адкрыў папулярны спявак Валерый Лявонцьеў. Яго сольны канцэрт, які адбыўся вечарам 21 ліпеня, стаў эфектным пралогам міжнароднага фестывалю мастацтваў. Дарэчы, у мінулым годзе выступленнем Валерыя Лявонцьева завяршыўся папярэдні "Славянскі базар".

Артыст прызнаўся, што ён шчаслівы пасля гадавога перапынку зноў сустрэцца з віцебскай публікай, і пажартаваў, што сёлета арганізатары фестывалю паклапаціліся аб добрым надвор'і, бо летась яго канцэрт праходзіў пад праліўным дажджом. Тады гледачы прадэманстравалі сапраўдную мужнасць, і ні адзін чалавек не пакінуў Летні амфітэатр. У якасці ўзнагароды за гэта сваю цяперашнюю праграму Валерый Лявонцьеў назваў "Канцэртам "на біс".

Ну, а каб зноў не паўтарыўся казус с надвор'ем, спявак пачаў выступленне з песні "Чалавек дажджу".

Аднак ён спеў "на біс" як свае старыя хіты, так і новыя песні. Прычым Валерый Лявонцьеў парадаваў гледачоў не толькі песеннымі прэм'ерамі. На віцебскай сцэне дэбютаваў яго новы танцавальны калектыў, які арганічна ўпісаўся ў гэта першакласнае шоу. У дадатак да ўсяго яно суправаджалася незвычайнымі лазернымі і светлавымі эфектамі.

Як і год таму гледачы прыйшлі ў неапісальнае захапленне і доўга не хацелі адпускаць спевака са сцэны. Да новай сустрэчы з віцебскай публікай Валерый Лявонцьеў рыхтаваўся вельмі старанна.

Акрамя ўсяго іншага, ён яшчэ падрыхтаваў і сюрпрыз: песню "З намі Бог", якая да гэтага нідзе не выконвалася. Дарэчы, у хуткім часе паклоннікі яго творчасці змогуць пачуць і ўбачыць новую праграму, якой Валерый Лявонцьеў мае намер адзначыць адразу два свае юбілеі — жыццёвы і творчы.

Што ж датычыць "Славянскага базару ў Віцебску", то ў інтэрв'ю карэспандэнтам БелТА Валерый Лявонцьеў сказаў, што ён спадзяецца яшчэ не раз прыняць у ім удзел. А фестывалю спявак пажадаў запаліць на эстрадным небасхіле яркую непаўторную зорку.

**Віктар КУКЛОЎ,**
**Эдуард ПІВАВАР, БелТА.**

**Таланты**

## Поделки Владимира Козлова

Владимир Семенович Козлов более 20 лет отработал на Чечерской фабрике художественных изделий. Он — мастер по соломоплетению. Примечательно, что и по сей день все выпускаемые изделия предприятия — в основном его разработки.

Уйдя на пенсию, Владимир Семенович любимое дело не бросает и намерен с нового учебного года создать в Чечерске при местном Доме пионеров студию по обучению школьников соломоплетению.

**На снимке:** *Владимир Козлов и созданные его талантом поделки.*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

**Постскриптум**

## Превышая власть и полномочия, государственные структуры не должны забывать о законных правах предпринимателей

В июле прошло уже второе Всебелорусское совещание руководителей и активистов предпринимательских, профсоюзных структур и организаций, на которое, кстати, представители Администрации президента и Высшего хозяйственного суда не прибыли.

Министерство предпринимательства и инвестиций пытается защищать законные права и интересы предпринимателей. Однако "делегаты" на местах фактически назначались органами исполнительной власти и налоговыми инспекциями. Вмешательство в ход совещания и навязывание своей воли госорганами явилось прямым нарушением ст.5 Закона Республики Беларусь "Об общественных объединениях".

В статье 5 указано: "Вмешательство государственных органов и должностных лиц в деятельность общественных объединений ...не допускается, кроме случаев, предусмотренных законодательством Республики Беларусь". По представительству и процедуре избрания делегатов, с точки зрения закона, мероприятие, проведенное 28 мая Министерством предпринимательства и инвестиций, можно считать только совещанием этого министерства и государственных структур со своими подчиненными с приглашением отдельных предпринимателей и оно не может выражать мнение всех предпринимателей республики.

Государство проводит в отношении предпринимательства практику двойных стандартов. С одной стороны, оно вводит в заблуждение мировую общественность и своих граждан, провозглашая курс на развитие и поддержку предпринимательства, а, с другой стороны, всё делается для уничтожения деловой активности в стране. Участники совещания полностью согласились с тем, что Беларусь справедливо считают зоной, неблагополучной для предпринимательства.

Резкой критике подверглась политика государства в области сертификации товаров и валютного регулирования. В стране существует несколько валютных курсов и официально приобрести валюту практически невозможно, но в то же время штрафы за нарушение валютных операций в несколько раз превышают месячный заработок граждан. Законы, декреты и указы принимаются в Беларуси бессистемно, зачастую противоречат друг другу и составляются безграмотно с юридической точки зрения. Сегодня указы и декреты лоббируют только интересы узкой группы людей в ущерб интересам всего общества. Непродуманные и непрофессиональные действия властей часто противоречат здравому смыслу, интересам потребителей, влекут за собой увеличение конечной цены товара и создают искусственные препятствия для поступления на отечественный рынок дешевых товаров.

С марта Гродненский облисполком незаконно отказывает в регистрации Гродненского областного профсоюза предпринимателей. Участники совещания просили прокуратуру Республики Беларусь рассмотреть вопрос о возбуждении уголовного дела в отношении должностных лиц Министерства юстиции, управления юстиции Гродненского облисполкома и Гродненского горисполкома по признакам преступлений, предусмотренных ст.133 (нарушение законных прав профсоюзов), ст.168 (халатность) и ст.167 УК РБ (превышение власти и служебных полномочий). Было решено просить Министерство юстиции Республики Беларусь провести в своих подразделениях учебу с целью обучения своих работников минимальным юридическим навыкам.

На совещании было заслушано сообщение о создании Республиканского профсоюза предпринимателей и принято постановление о подготовке документов для создания организационной структуры типа конфедерации.

Не обошли вниманием участники совещания и официальные данные о так называемом экономическом росте в Беларуси. Они считают, что эти "успехи" получены за счет фальсификаций и искажения статистических данных. В связи с катастрофическим ухудшением условий жизни и хозяйствования в Беларуси признано необходимым проведение массовых общереспубликанских акций протеста.

Единогласно было принято решение о проведении таких акций во второй половине 1998 года и первой половине 1999 года в том случае, если правительство не примет мер по выполнению предложений, изложенных в приложении №2. В этом приложении содержатся **Предложения о неотложных мерах по изменению действующего законодательства в РБ, направленного на развитие малого предпринимательства** и включают в себя 24 пункта. Для координации работы по организации массовых акций протеста и переговоров с представителями заинтересованных сторон решено создать рабочую группу.

**Валерий ЛЕВОНЕВСКИЙ.**

